# АЛЬТЭРНАТЫВЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ Ў НАС ПРОСТА НЯМА

**На Беларускім тэлебачанні нядаўна адбылася «Прамая лінія» з прадстаўнікамі міністэрства адукацыі — міністрам Віктарам ГАЙСЁНКАМ, яго намеснікамі — Георгіем БУТРЫМАМ, Анатолем ГАРНАКОМ, а таксама начальнікам упраўлення ВНУ і педагагічнай адукацыі Мікалаем ПЛЕСКАЦЭВІЧАМ, начальнікам упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Генадзем ПЯТРОЎСКІМ, начальнікам упраўлення дашкольнага выхавання Тамарай КАРАСЦЯНЁВАЙ і галоўным спецыялістам планава-эканамічнага ўпраўлення Ліліяй АНЦІНАЙ. У фарміраванні некаторых пытанняў лініі прымала ўдзел і «Звязда». Таму мы палічылі мэтазгодным надрукаваць частку адказаў супрацоўнікоў міністэрства на пытанні тэлегледачоў і чытачоў «Звязды».**

**— Ці будзе школа фарміраваць навуковы светапогляд. Калі будзе, то чаму ў школу дапускаюцца святары?**

Г. ПЯТРОЎСКІ: У Законе аб адукацыі, пазначана, што адукацыя ў Беларусі носіць свецкі характар, а таму выкладанне ў школе Закона Божага недапушчальнае. Вы можаце пайсці ў царкву, у сінагогу, іншыя месцы, але ў навучальнай установе, у школе дзейнасці святароў быць не можа.

Г. БУТРЫМ: Далучаюся да гэтай думкі. Хацелася б сказаць, што, сапраўды, гэта складанае пытанне і з кожным днём набывае ўсё большую актуальнасць. У многім на яго адкажа закон «Аб рэлігійных арганізацыях і незалежнасці сумлення», які хутка будзе прыняты.

**— Ці ёсць якая-небудзь пастанова наконт школьнай формы?**

Г. БУТРЫМ: Я хацеў бы адзначыць, што ў адпаведнасці з Палажэннем аб сярэдняй адукацыйнай школе пытанне аб неабходнасці школьнай формы вырашае савет школы. Ніякіх пастаноў міністэрства, загадаў у гэтым сэнсе няма, і я не лічу, што мы павінны іх аддаваць.

**— Цяпер мала ўвагі звяртаецца на дашкольнае выхаванне дзяцей. Што-небудзь у гэтым плане мяняецца?**

— Т. КАРАСЦЯНЁВА: Пытанні дашкольнага выхавання трэба пачынаць дзесьці з 3-гадовага ўзросту. І шмат губляе школа, калі не прадбачыць, што з выхаваннем у больш сталым узросце ўзнікаюць дадатковыя складанасці. Бацькоў жа, мяркуючы па пытаннях, турбуе, што будзе з сеткай дзіцячых садкоў, бо з 1991 года пайшло іх разбурэнне. Раней 5.300 дашкольных устаноў стваралі адзіную сістэму дашкольнага выхавання. Праўда, у рэспубліцы 24 красавіка была прынята пастанова Вярхоўнага Савета, якая спыніла працэс разбурэння існуючай сеткі выхаваўчых устаноў. Гэтай пастановай забараняецца скарачэнне дзіцячых садкоў, іх продаж. І калі ў далейшым прадпрыемствы, напрыклад «Гарызонт», трактарны завод, калгасы, саўгасы пастараюцца больш уважліва ставіцца да клопатаў бацькоў, то сетку дзіцячых устаноў мы здолеем захаваць. І тут дарэчы пытанне, ці будзе павялічана плата за дзіцячыя садкі? Гэтая ж пастанова прадугледжвае, што бацькі павінны плаціць 70 працэнтаў ад агульнай сумы на харчаванне сваіх дзяцей. Калі ў далейшым узрастуць цэны на прадукты харчавання, то ўзнімецца і аплата.

**— Ці працуюць дзіцячыя ўстановы па эксперыментальных праграмах і што гэта такое?**

Т. КАРАСЦЯНЁВА: У рэспубліцы, пачынаючы з 1990 года, дзіцячыя ўстановы працуюць не па адной, а па некалькіх праграмах. Да пачатку новага навучальнага года БелНІІ адукацыі падрыхтаваны дзве праграмы: адна звязана з работай дзіцячых садкоў у гібкім рэжыме, г. зн. бацькі прыводзяць дзіця тады і на той час, які іх задавальняе. Другая праграма звязана з эстэтычным, мастацкім выхаваннем дашкалят. Яна прадугледжвае паглыбленае вывучэнне асноў мастацтва, пачынаючы з 3-х гадоў. На базе дашкольных устаноў мы пачалі ствараць гурткі, секцыі, студыі па музычнаму выхаванню, па мастацкай, па тэатральна-гульнёвай дзейнасці і гэтак далей. Гэта платная паслуга насельніцтву, але ў некаторых садках яе аплачваюць ведамствы і прадпрыемствы, каб дапамагчы бацькам у развіцці здольнасцей дзіцяці.

**— Ці будуць захоўвацца датацыі на харчаванне першакласнікаў?**

Г. ПЯТРОЎСКІ: Пытанне аб харчаванні дзяцей у школах вельмі і вельмі складанае. Як вы ведаеце, да канца мінулага года былі датацыі: два рублі ў дзень на вучня. Зараз яны ліквідаваны. З рэспубліканскага бюджэту датацый не будзе, але ў канцы мінулага тыдня адбылася сустрэча намеснікаў старшынь аблвыканкомаў з намеснікам Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаілам Дземчуком, на якой дасягнута дамоўленасць, што з мясцовых сродкаў органы кіравання будуць выдзяляць грошы на харчаванне школьнікаў у памеры да трэці яго кошту.

**— На чым заснаваны адбор вучняў у 11-я класы? І што рабіць з дзецьмі, якія не прайшлі гэты адбор?**

Г. ПЯТРОЎСКІ: Я хацеў бы адзначыць, што конкурсны адбор па Закону аб адукацыі праводзіцца ў 10-я класы. Што датычыцца парадку арганізацыі гэтага конкурсу, то ў адпаведнасці з артыкулам 26-м ён вызначаецца самімі навучальнымі ўстановамі. Але міністэрства дало рэкамендацыі, каб прыём ажыццяўляўся не па экзаменах, а згодна з конкурсам атэстатаў і толькі ў тым выпадку, калі колькасць жадаючых вучыцца ў гэтай школе значна перавышае колькасць месц у ёй. Тады можна правесці нейкую кантрольную работу ці субяседванне.

**— Сярэдняя адукацыя, так сказаць, класічная ў нас, і мы робім нейкія адступленні ад яе, калі дапускаем адбор дзяцей: туды горшых, туды лепшых...**

Г. ПЯТРОЎСКІ: Справа не ў размежаванні лепшых і горшых, а ў тым, што адукацыйны патэнцыял ва ўсіх вучняў розны, і калі мы ўсім будзем даваць адзін змест адукацыі, то не задаволім запатрабаванняў ні больш моцных, ні слабейшых вучняў. Таму для тых, хто можа рухацца ў іншым тэмпе, хто можа засвоіць больш, чым дзяржаўны стандарт адукацыі, ствараецца ўстанова новага тыпу. Я маю на ўвазе арганізацыю на базе сярэдніх школ ліцэяў і гімназій. Іх зараз у рэспубліцы няшмат, але гэта работа ўжо выйшла за межы эксперымента. Савет Міністраў рэспублікі зацвердзіў палажэнне аб навучальных установах новага тыпу: ліцэях, гімназіях, каледжах, вышэйшых прафесіянальных вучылішчах. І мы будзем разам з тэрытарыяльнымі органамі кіравання весці работу па стварэнню сеткі такіх навучальных устаноў.

**— «Троечнікаў» раней прымалі прафтэхвучылішчы. Закона, каб іх бралі на работу, цяпер няма. Што рабіць?**

— А. ГАРНАК: Хачу адзначыць, што за апошнія чатыры гады прыём у прафтэхвучылішчы і тэхнікумы зменшыўся на 40 тысяч чалавек, у тым ліку ў прафтэхвучылішчы — на 30 тысяч і на 10 тысяч — у тэхнікумы. Таму ёсць дадатковыя месцы для паступаючых у гэтым годзе. Але тут трэба мець дзяржаўны заказ, трэба клапаціцца, каб былі адкрыты рабочыя месцы. Тады не будзем мець ніякіх клопатаў з прыняццем гэтых юнакоў і дзяўчат і будзем вучыць іх па тых спецыяльнасцях, якія патрэбны народнай гаспадарцы рэспублікі.

**— Ці мяркуецца змяншэнне прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы? І як плануюць развівацца платныя ВНУ?**

М. ПЛЕСКАЦЭВІЧ: Калі разважаць пра колькасць навучэнцаў, тут трэба ўлічваць патрэбнасць рэспублікі ў кадрах. Напрыклад, у педагагічных інстытутах нават ёсць тэндэнцыя да павелічэння набору, бо пытанне аб педагагічных кадрах у рэспубліцы стаіць яшчэ востра. У тэхнічных ВНУ сёлета сапраўды змяншэнне. Што датычыцца платных ВНУ, то колькасць іх расце вельмі хутка. У Мінску, здаецца, іх ужо пяць. Падкрэслім: трэба мець дзяржаўныя заказы на змест адукацыі. Мне здаецца, што і платныя навучальныя ўстановы павінны былі б на першым этапе 1-ы семестр вучыць дарма, каб студэнт паказаў свой узровень, бо інакш ад жадання атрымаць грошы можа пацярпець якасць навучання.

**— Тыя студэнты, што пачалі вучобу ў іншых рэспубліках, змогуць там давучыцца?**

М. ПЛЕСКАЦЭВІЧ: Гэта пытанне ўзгаднялася з іншымі рэспублікамі. І паспяхова. Але ёсць прэтэндэнты: напрыклад, завяршэнне навучання спецыялістаў грамадзянскай авіяцыі ў Рыжскім авіяцыйным універсітэце. Вырашылі: студэнтаў 2-га і 3-га курса перавесці ў рэспубліку па адэкватнаму профілю, а студэнты старэйшых курсаў завершаць сваё навучанне там. Перавучваць іх ці пачынаць вучобу спачатку немэтазгодна. Таму мы павінны зараз вырашыць гэта пытанне, каб не хваляваліся ні навучэнцы, ні іх бацькі.

**— У рэспубліцы звыш 300 тысяч дзяцей з разумовымі і фізічнымі адхіленнямі. Прайшла чутка, што школы-інтэрнаты для такіх дзяцей збіраюцца закрываць. Наколькі гэта аб'ектыўная інфармацыя?**

Г. БУТРЫМ: Цяпер іх вельмі цяжка ўтрымліваць. 40—50 тысяч рублёў абыходзіцца ўтрыманне аднаго такога дзіцяці. Пры тым адрываем дзіця ад сям'і. Канешне, мы і далей будзем клапаціцца аб развіцці гэтых устаноў, але наш магістральны накірунак—адкрываць спецыяльныя класы па месцы жыхарства ў агульнаадукацыйнай школе, што спрыяе таксама нармальным узаемаадносінам са здаровымі дзецьмі.

**— Чаму ігнаруецца думка бацькоў пры пераводзе класаў, дзіцячых садкоў з рускай на беларускую мову?**

В. ГАЙСЁНАК: Перавод на беларускую мову навучання, пашырэнне сферы яе ўжывання—патрабаванне закона, і органы адукацыі дзейнічаюць у адпаведнасці з ім. Трэба зразумець: калі ўсе нашы размовы наконт адраджэння, развіцця нацыянальнай свядомасці, стварэння незалежнай Беларусі не проста размовы, то альтэрнатывы ў нас няма. Бо толькі праз далучэнне да нацыянальнай культуры, гістарычнай спадчыны можна выхаваць грамадзяніна сваёй краіны. І калі пачынаюць гаварыць пра парушэнне правоў, прымусовасць, — гэта азначае недасведчанасць і абыякавасць некаторай часткі насельніцтва да нацыянальнай культуры і мовы, а сёй-той, наогул, не можа адмежавацца ад паняцця «савецкае грамадства». Гэтыя часіны скончыліся, і мы павінны выбіраць, дзе мы, з кім мы, як павінны далей развівацца.

Што датычыць рускай мовы, то мы зыходзім з таго, што яна павінна быць мовай зносін паміж грамадзянамі рэспублік СНД. Гэта першае. І другое. Мы не будзем цурацца яе, бо многія духоўныя багацці існуюць менавіта на рускай мове. І я думаю так: руская мова і далей будзе вывучацца ва ўсіх адукацыйных школах. Гэтага патрабуе і Закон.

**Адказы на пытанні да друку падрыхтаваў**
**Аляксандр КОКТЫШ.**

ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ

# ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ЖЫЛЛЯ—ПРАВА ЦІ АБАВЯЗАК? ШТО ЯНА ДАСЦЬ?

**Дзякуем чытачам за ўвагу, якую яны праявілі да нашай папярэдняй юрыдычнай кансультацыі «Грашовая жыллёвая квота. Як яе атрымаць і на што выкарыстаць». У чарговай кансультацыі на гэту тэму мы мелі намер расказаць аб тым, што трэба рабіць, каб прыватызаваць жыллё. Але ж тэлефонныя званкі і пісьмы чытачоў унеслі карэктывы ў такое рашэнне.**

**Мы ўбачылі, што многіх у першую чаргу цікавіць, ці абавязаны яны прыватызаваць сваё жыллё, наогул, што дае ім прыватызацыя. Некаторыя просяць параіць у канкрэтных выпадках: прыватызаваць ім жыллё або не?**

**Напрыклад, М. Лукашэвіч з Мінска пытаецца: «Жыву ў кватэры дома ЖБК. З'яўляюся яго членам. Ці абавязаны я прыватызаваць сваю кватэру?» А. Пашкоўская з Мазыра просіць растлумачыць наступнае: «З мужам і дачкой займаем двухпакаёвую дзяржаўную кватэру. Каб яе прыватызаваць, нашых квот не хапае. Трэба даплаціць значныя сродкі, якіх у нас няма. Што дасць нам прыватызацыя кватэры, не ведаем. Парайце, што нам рабіць, лезці ў даўгі і прыватызаваць кватэру або з гэтым можна не спяшацца?»**

**Такія пытанні задавалі і іншыя чытачы.**

Адразу адзначым, што прымаць рашэнне па таму ці іншаму жыццёва важнаму пытанню (а прыватызацыя жылля, на наш погляд, адносіцца менавіта да такіх)—асабістая справа кожнага. Таму мы не можам узяць на сябе адказнасць даваць чытачам канкрэтныя парады. Бачым сваю задачу ў тым, каб у сваіх кансультацыях растлумачыць грамадзянам іх правы і абавязкі, расказаць, як можна дасягнуць той ці іншай мэты, а таксама засяродзіць увагу на выніках, якія пры гэтым будуць мець месца.

А зараз паспрабуем адказаць, што такое прыватызацыя і што яна дасць. Згодна з артыкулам 1 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь», пад прыватызацыяй жыллёвага фонду разумеецца набыццё ва ўласнасць займаемых грамадзянамі жылых памяшканняў у дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду.

У выніку прыватызацыі грамадзяне набываюць у адносінах да прыватызаванага жылога памяшкання правы ўласніка. Яны істотна адрозніваюцца ад правоў грамадзян, якія займаюць жылыя памяшканні і карыстаюцца імі на іншых падставах (напрыклад, ад правоў наймальнікаў памяшканняў у дзяржаўным і грамадскім жыллёвым фондзе, членаў жыллёва - будаўнічых кааператываў і г. д.).

Так, права ўласнасці на прыватызаванае жыллё захоўваецца за ўласнікам незалежна ад таго, пражывае ў ім уласнік або не. Гэта права захоўваецца нават тады, калі ўласнік выязджае на іншае пастаяннае месца жыхарства, ў тым ліку і за мяжу. Для параўнання адзначым, што наймальнікі ў дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду пазбаўляюцца права карыстання памяшканнямі, калі яны тут не пражываюць без уважлівых прычын звыш шасці месяцаў ці пераехалі на іншае пастаяннае месца жыхарства. На гэтых жа падставах могуць быць пазбаўлены права карыстання жылым памяшканнем члены сям'і, якія не маюць права на паявыя накапленні, членаў жыллёва - будаўнічых кааператываў. Самі члены і члены яго сям'і, якія маюць права на такія накапленні, таксама могуць быць пазбаўлены права на жылое памяшканне ў доме ЖБК, калі яны пераехалі на іншае пастаяннае месца жыхарства.

Уласнік жа мае права прадаць або падарыць жыллё. У выпадку смерці прыватызаванае ім памяшканне перадаецца яго наследнікам па правілах заканадаўства аб спадчыне.

Трэба, аднак, мець на ўвазе, што гэтыя правы ўласніка некалькі абмежаваныя. Так, згодна з артыкулам 18 вышэйпамянёнага закона на працягу трох гадоў з моманту набыцця прыватызаваных жылых памяшканняў ва ўласнасць, яны могуць быць прададзены толькі мясцовым Саветам народных дэпутатаў. Гэты продаж ажыццяўляецца па дагаворных цэнах. Продаж прыватызаваных жылых памяшканняў іншым асобам на працягу гэтага часу забаронены. Дагавор дарэння кватэры, што належыць грамадзяніну па праву ўласнасці, можа быць заключаны толькі паміж асобамі, якія з'яўляюцца блізкімі сваякамі: муж і жонка, дзеці, бацькі, дзед, бабуля, унукі, родныя браты і сёстры ўласніка і яго жонкі (ці мужа). Што датычыцца перадачы жылога памяшкання ў спадчыну, то ўласнік мае права перадаць яго па завяшчанню любой асобе — незалежна ад таго, з'яўляецца яна сваяком ці не.

І яшчэ трэба адзначыць адно абмежаванне правоў уласніка. У тых выпадках, калі ён паляпшае свае жыллёвыя ўмовы і ў сувязі з гэтым атрымлівае новую кватэру на падставе дагавору найму дзяржаўнага або грамадскага жылля, ён павінен займаемае прыватызаванае памяшканне перадаць мясцоваму Савету народных дэпутатаў, калі ў ім не засталіся пражываць члены яго сям'і.

У цалкам прыватызаваных дамах уласнікі ствараюць таварыствы па іх эксплуатацыі і рамонту. У тых жа, якія прыватызаваны няпоўнасцю, штомесячна ўдзельнічаюць у фінансаванні часткі затрат, звязаных з эксплуатацыяй і рамонтам месц агульнага карыстання, канструкцыйных элементаў, інжынерных сістэм, утрыманнем прылягаючых да дома тэрыторый у адпаведнасці з займаемай імі агульнай плошчай у межах дзеючай кватэрнай платы. У якой меры фінансаванне затрат уласнікамі жылых памяшканняў адрозніваецца ад кватэрнай платы наймальнікаў і расходаў на ўтрыманне кватэры членаў ЖБК, можна даведацца ў жыллёва-эксплуатацыйных арганізацыях па месцы жыхарства.

Застаецца толькі дадаць, што згодна з артыкулам 2 таго ж закона адным з прынцыпаў прыватызацыі жылля з'яўляецца добраахвотнасць. Гэта значыць, што такое рашэнне маюць права прымаць толькі самі грамадзяне. І ніхто не можа тут прымусіць. А вось, калі гэта лепш зрабіць, чалавек выбірае сам.

Спадзяёмся, што дадзеныя тут звесткі дапамогуць вам прыняць правільнае рашэнне: прыватызаваць сваё жыллё, або не.

**Уладзімір КУПЧЫНСКІ,**
**юрыст, галоўны кансультант агенцтва «Інтэрюркам» пры Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь.**

СУБ'ЕКТЫЎ

# ЭХ, ЖЫТКА САБАЧАЯ... КАЖУЦЬ, У НЬЮ-ЙОРКУ ТАКСІСТЫ ДАЮЦЬ РЭШТУ...

● Калегі ведаюць, што мяне цягне ў розныя «пажыўныя» месцы накшталт вакзалаў, «барахолкі» і да т. п. Пры ўсім тым — што шчыра каюся — аэрапорты сваёй увагай я неяк абмінуў. А тут выпадак: прылятае сястра жонкі з дзіцем і трэба сустракаць. У якасці родзіча я павінен быў выконваць ролю цяглавой сілы (перанос габарытных прадметаў на адлегласць), у якасці журналіста — мог назіраць і запамінаць. Прыйшоўшы да такой высновы, я набыў душэўную раўнавагу. І паехаў сустракаць.

● Тут якраз збіраліся баставаць авіядыспетчары, таму на душы было холадна і сумна: ніяк не менш ночы разлічваў праседзець у аэрапорце «Мінск-2». Ну і, зразумела, у думках лаяўся на дыспетчараў даволі зухавата і, як пазней высветлілася, незаслужана. Бо самалёт прыляцеў са спазненнем усяго толькі на гадзіну. Калі перавесці на наш маштаб, ну, гэта дзесьці пяць-дзесяць хвілін. Нават увагі не варта звяртаць. Гэта значыць, што «Аэрафлот», можна сказаць, працуе як гадзіннік. Праўда, савецкай вытворчасці.

Наступная група перажыванняў была звязана з аварыйнасцю палётаў. А ну як (думалася) паліва не хопіць і самалёт ляснецца недзе ў тайзе? Ці крыло адваліцца? Ці лётчык напярэдадні палаяўся з жонкай, а штурман — перапіў і вырашыў, што падлятае не да Мінска, а да Нью-Йорка? Ах, ад якіх толькі выпадковасцей не залежыць наша жыццё... Хочацца адзначыць: іх апошнім часам стала так многа, што прыходзіш да высновы: беспячней лятаць у космас, чым вакол матухны-Зямлі.

● Да аэрапорта даехалі з камфортам, усяго за 30 рублёў (кошт аўтобуснага білета). Пад'язджаючы, бачылі НЛА — яркі матава-белы шар па-над лесам. Хлопцы, што ляцелі ў Крым, адзначылі падзею ромам. Пры гэтым яны адзначылі яе таксама шматлікімі нецэнзурнымі выказваннямі.

Хто не быў у аэрапорце «Мінск-2», дык гэта такі вялікі ангар (ці хлеў — дагэтуль не магу вырашыць, якое слова больш падыходзіць), даволі брудны, але прасторны. На радах крэсел томімся мы. Можна паглядзець тэлевізар. Ён адзін на ўсю залу, чорна-белы і з даволі ўпартым характарам — паказвае толькі першую праграму. Пераключыць на другую не ўяўляецца магчымым, бо тэлевізар высока вісіць. Атрымліваецца так: «З Босні перадае наш карэспандэнт, рэйс №... Бішкек—Мінск спазняецца на дзве гадзіны, учора ў Сараеве зноў былі перастрэлкі, пасажыр Абувалееў, што прыляцеў з Ташкента, просім падысці да шматлікіх піўнушак і кафэ, дзе адпачываюць венцы...».

Таксама ж мы можам перакусіць у «кропцы» — такім буфеціку з доўгай чаргой і жанчынай-прадаўцом з таямнічымі вачыма. Сэнс таямнічасці пачынаеш разумець, калі кабета «забывае» аддаць «пяцёрку» за выпітую на месцы бутэльку страшнаватай на выгляд вадкасці. Вадкасць называецца напітак «Ранак», пяшчотна так, рамантычна. Аднак не пужайцеся, калі «ўдарыць» па мазгах, а ў страўніку пачнуцца дзіўныя змяненні. У рэшце рэшт — гэта не воцат, ратаваць вас не трэба, ну, пару разоў падскочыце ў туалет — і ўсё будзе нармальна.

Ледзь не забыў: не трэба звяртаць увагі на самаробныя аб'явы тыпу «Туалет не працуе»... Смела ідзіце, ён працуе, гэта прыбіральшчыцы не хочуць працаваць. Нас многа, а іх — усяго толькі адна.

● Вось табе на! Прыехалі — на аўтобусным прыпынку стаяла чалавек пяць, крыху пакруціліся —набралася немаведама адкуль ледзь не трыста. З жонкай мы арганізавалі малы «курултай» і вырашылі: я займаю чаргу на аўтобус, яна сустракае сястру. Займаю, стаю, думаю: паедзем на таксі, ну яго, гэты аўтобус.

Народ падабраўся нейкі заклапочаны: носяцца ад чаргі да «загона», адкуль выпускаюць авіяпадарожнікаў. Аўтобусы з пасадачнай паласы падлятаюць па два, па тры, з іх вывальваецца натоўп чэлябінска-бішкекска-мурманска-ташкенцкіх пасажыраў. І зусім мажліва замест сваёй жонкі расцалаваць чужую, падхапіць у сумятні сумкі пабочнай цешчы. З жонкай магчыма дагаварыцца, з цешчай — ну-у, я нават не ведаю... Могуць быць складанасці. Так што трэба пільнаваць і аўтобус, і родных з блізкімі.

Ну, нічога, час, між іншым, можна правесці даволі плённа. У сэнсе — атрымаць шмат карыснай інфармацыі. Я, напрыклад, даведаўся, што ў часці, дзе служыць сусед па чарзе, толькі 7 афіцэраў з 38 збіраюцца прымаць беларускую прысягу. Гэтыя 7, удакладніў субяседнік, не маюць кватэр. Астатнія кватэры маюць і абмяркоўваюць, каму прадаць свае ваенныя веды і вопыт: Азербайджану, Арменіі ці, скажам, Прыднястроўю. А што? Таксама праблема.

Крыху далей ідзе гарачая спрэчка на тэму: як выехаць з аэрапорта ноччу. Гэта мне блізка. Да таго ж, да болю хочацца разабрацца, чаму побач стаяць ледзь не чатыры дзесяткі таксі, а народ прэцца ў аўтобус. І адбываюцца непрыгожыя рэчы. Напрыклад, бойкі і сваркі, з ужываннем спецыяльнай лексікі. А на мае пытанні наконт таксі ўсе крыва ўсміхаюцца і маўчаць. Крыўдна. Іду да таксістаў.

● — «Паўднёвы Захад», едзеш?

— Колькі?

— Трое дарослых і дзіцё.

— Восемсот.

— ?!

— Чаго ты? За меншую суму ніхто не павязе.

Выціраю пот і іду далей.

— «Паўднёвы Захад», едзем?

— «Штука».

— Так тваю і гэтак! Толькі што восемсот прасілі!

— Ну дык і едзь з імі.

Ну так. Усё мне становіцца зразумелым. Народ не абдурыш. Аналіз інфармацыі, атрыманай ад таксістаў, сістэматызаваўся проста: да вакзала — 600—700, да «Зялёнага Луга» — 500, калі едзеш адзін — плаціш усю суму, калі са спадарожнікамі — па 300—400.

Настрою, канешне, ніякага. А тут яшчэ аўтобусаў няма. І па чарзе шэпт: таксісты дамовіліся з аўтобуснікамі, і тыя спецыяльна не спяшаюцца. Ну, наконт гэтага не ведаю. А тое, што «залётнаму» аўтобусу, вадзіцель якога хацеў «падкалыміць», прапаролі колы — гэта сам бачыў.

Такім чынам, рынак транспартных паслуг у аэрапорце, дзякуй Богу, ужо падзелены. На вялікі жаль, нас там неяк абышлі ўвагай. Мы —Крыніца атрымання звышпрыбыткаў. Толькі і ўсяго. Праўду разумныя людзі кажуць, што рынак у нас — гэта зусім не рынак, а блатное «такавішча».

Добра. Паедзем аўтобусам. Хоць у тры ночы, але за 30. Ну не магу я сабе дазволіць выкінуць тысячу за тры дзесяткі кіламетраў! Душа пратэстуе і не можа змірыцца. Як справядліва заўважае мая жонка, лепш на гэту тысячу купіць памідораў. І тут я з ёю поўнасцю згодны.

● А самалёт рэйса Уладзівасток—Чыта—Мінск ужо прыляцеў. Тут жа высвятляецца прычына спазнення: і ва Уладзівастоку, і ў Чыце ніяк не маглі загрузіцца — нашы землякі вярталіся з братняга Кітая з «пухавікамі» і фальшывымі спартыўнымі касцюмамі «Адыдас», у якіх ходзіць палова Мінска. Прычым, што цікава, атрымалася перагрузка, а на пасажырскіх месцах ляцелі «пухавікі». Як гэта можа быць, ведае чорнае неба ды камандзір карабля. Я апладзірую яго лётнаму майстэрству і сапраўды камерцыйнай жылцы. Ён давёз і людзей, і прадукцыю кітайскіх кааператываў.

Канешне, не варта ўспрымаць усё ў змрочных тонах. Калі-нікалі святло ў канцы тунеля мільгае і для нас. Вось, скажам, ужо ў горадзе з нас спрабавалі злупіць 200 рублёў ад вакзала да «Паўднёвага Захаду». А мы далі 100. І нічога, слова не сказаў. І хітрыкі накшталт зняцця шыльдачкі з прозвішчам і «фэйсам» 3×4 не дапамаглі. Няма шыльдачкі — нумар ёсць. Шчыра прапаную: згаджайцеся на любую цану, але пры гэтым дэманстратыўна паглядзіце на нумар. Можна нават запісаць. Гэта вельмі нервуе таксіста і прымушае згаджацца на вашы ўмовы.

Спадары! Сумеснымі намаганнямі ўстановім справядлівыя цэны! Амінь.

● На завяршэнне анекдот: у Нью-Йорку таксісты даюць рэшту.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**
**Мінск — аэрапорт «Мінск-2».**

ЭКАЛОГІЯ І МЫ

# ПРА НАС, ШТО СВАІМІ РУКАМІ СЫПЛЕМ АТРУТУ ВА ЎЛАСНЫ ЧАЙНІК

**Вастрыня экалагічнага крызісу нарастае, абганяючы самыя змрочныя прагнозы. Ранейшая дзяржаўная экалагічная палітыка пацярпела поўны крах. І гаворка ідзе не толькі аб катастрофах накшталт чарнобыльскай. Мы маем справу з агульным нізкім узроўнем экалагічнай свядомасці і экалагічнай культуры вытворчасці. Па некаторых ацэнках амаль 20 працэнтаў захворванняў абумоўлены антрапагеннымі забруджваннямі.**

Фінансаванне прыродаахоўнай дзейнасці пераважна па астаткаваму прынцыпу паказала сваю абсалютную неэфектыўнасць. Структура інвестыцый не адпавядала рэальнай экалагічнай небяспецы. Ва ўмовах пераходу эканомікі да рынацных адносін ускладнілася кіраванне прыродакарыстаннем, што ў многім тлумачыцца крайняй недасканаласцю заканадаўства і крызісам выканаўчай улады.

Што ж у такім разе неабходна зрабіць для рэальнага паляпшэння стану навакольнага асяроддзя? На мой погляд, перш за ўсё стварыць эфектыўнае прыродаахоўнае заканадаўства, мець дастатковую экалагічную інфармацыю і павялічыць як мінімум у два-тры разы фінансаванне прыродаахоўнай дзейнасці. З гэтага ўжо можна пачынаць «рамонт прыроды».

У аснову дзяржаўнай прыродаахоўнай палітыкі трэба пакласці навуковую канцэпцыю экалагічнай бяспекі Беларусі, якая павінна быць састаўной часткай сістэмы нацыянальнай бяспекі. Ці не занадта гучна сказана? Не. Зніжэнне якасці навакольнага асяроддзя, вынікі чарнобыльскай катастрофы і іншых тэхналагічных аварый, змяненні клімату становяцца перашкодай для ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Вы спытаеце: а якія, уласна кажучы, негатыўныя вынікі пагаршэння экалагічнай абстаноўкі ў Беларусі? Па-першае, гэта высокае захворванне і чакаемая нізкая працягласць жыцця людзей, абумоўленыя ў многім экалагічнымі прычынамі. Назіраецца рост захворвання злаякаснымі новаўтварэннямі. Так, колькасць такіх хворых з упершыню ўстаноўленым дыягназам на 100 тысяч чалавек насельніцтва складала ў 1980 г. 210, 9, а ў 1990-м — 267,5. За перыяд пасля чарнобыльскай аварыі захворванне ракам шчытападобнай залозы ў дзяцей узрасло па рэспубліцы ў 7 разоў, а па Гомельскай вобласці ў 22 разы. Сярэдняя працягласць жыцця людзей складае 71,3 года, у тым ліку 66,4 года ў мужчын і 75,9 у жанчын. Гэта значна ніжэй, чым у развітых краінах.

Па-другое, павялічваецца забруджанне прадуктаў харчавання ядахімікатамі, нітратамі, цяжкімі металамі, радыенуклідамі, што павышае ўзровень захворванняў, асабліва сярод дзяцей. Так, у рэспубліцы сярэдняя норма ядахімікатаў на гектар ворыва складае 3,5 — 5 кг, у той час як у ЗША, 1,5 кг і ў Заходняй Еўропе 2 кг на гектар.

Па-трэцяе, можна гаварыць аб расшырэнні маштабаў радыеактыўнага забруджвання і павелічэння асабліва неспрыяльных экалагічных зон у месцах канцэнтрацыі хімічнай і нафтаперапрацоўчай прамысловасці. Узрастае рызыка тэхнагенных катастроф, звязаных, з аднаго боку, са значным зносам вытворчага абсталявання, а з другога — з шырокім прымяненнем экалагічна недасканалых тэхналогій у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, энергетыцы і на транспарце.

Па-чацвёртае, ідзе дэградацыя аднаўляемых прыродных рэсурсаў. Зніжаецца ўрадлівасць глебы і губляюцца ворныя землі, скарачаецца ўлоў ва ўнутраных вадаёмах. У 1980 годзе плошчы сельскагаспадарчых угоддзяў і ворыва ў разліку на аднаго жыхара складалі 1,01 га і 0,64 га адпаведна. У 1991-м прыпадала ўжо 0,86 га сельгасугоддзяў і 0,55 га ворыва. Калі ў 1985 годзе было вылаўлена ў вадаёмах рэспублікі 2498,7 тоны рыбы, то ў 1991-м толькі 1680,4 тоны.

Пагоршылася якасць вады. Паверхневыя воды практычна не маюць пітнога значэння. Ды і ў падземных выяўляюцца шкодныя рэчывы і радыенукліды. Да вялікіх матэрыяльных страт вядзе забруджванне паветра: псаванне будынкаў, карозія металічных канструкцый. кіслотныя дажджы. І, вядома, аплата бальнічных лістоў.

А нам яшчэ неабходна прадбачыць ролю Беларусі як дэстабілізуючага (!) фактару ў міжнароднай экалагічнай бяспецы. Гаворка ідзе аб магчымых прэтэнзіях сумежных дзяржаў, звязаных з пераносам паветраных мас і сцёкамі рэк. (Сцёкі нашых рэк ідуць на Украіну і ў Прыбалтыку).

Паскораны пераход да рынку без наладжвання належнага дзяржаўнага кантролю за гаспадарчай дзейнасцю можа прывесці да далейшага рэзкага ўзрастання антрапагеннага ўздзеяння на прыроду Беларусі. Гэта праблема самога жыцця рэспублікі. Такім чынам, патрэбна распрацоўка і рэалізацыя такой экалагічнай палітыкі, якая прадухіляла б далейшае пагаршэнне прыроднага асяроддзя.

Як перайсці ад дэкларацый да рэальнай дапамогі прыродзе і чалавеку ў ёй? Напачатку паскорыць распрацоўку сістэмы заканадаўчых актаў па рацыянальнаму прыродакарыстанню з прыярытэтам чалавека. Галоўным з'яўляецца права чалавека на пражыванне ў чыстым навакольным асяроддзі і доступ да інфармацыі аб стане прыроднага асяроддзя. Скажэнне ці ўтойванне экалагічнай інфармацыі трэба разглядаць на ўзроўні крымінальнага злачынства. Заканадаўства павінна ўстанавіць прававую адказнасць рэсурсакарыстальніка, сістэму паказчыкаў і норм допушчальных уздзеянняў на навакольнае асяроддзе і на чалавека, нормы выкарыстання рэсурсаў, экалагічную экспертызу праектаў, планаў, праграм.

Першым такім актам стане Закон «Аб ахове навакольнага асяроддзя». У ім трэба дакладна вызначыць сістэму дзяржаўнага рэгулявання адносін уласнасці ў сферы прыродакарыстання. Гэта найперш меры па ўрэгуляванню цэнаўтварэння і падаткаабкладання, дзяржаўнай экалагічнай сертыфікацыі выпускаемай прадукцыі, увядзенню платнага парадку выкарыстання прыродных рэсурсаў, па эканамічнаму стымуляванню прыродаахоўнай дзейнасці.

Трэба рашуча ўмацаваць адзіную дзяржаўную сістэму кантролю і кіравання прыродакарыстаннем. Для гэтага неабходна ўзняць статус Дзяржкамітэта па экалогіі,ператварыць яго ў адно з галоўных структурных падраздзяленняў Савета Міністраў, узначальваемае віцэ-прэм'ерам. Дзяржкамітэт па экалогіі павінен стаць асноўным распарадчыкам экалагічнага фонду, які не дапусціць яго распылення.

Зразумела, гэта будуць толькі першыя крокі да «экаразвіцця».

Асабліва, яўна непрывычнае для нашага мыслення пытанне: а што можа даць экалогіі прадпрымальнік? Даць можа многае. Перш за ўсё гэта экалагічна чыстыя тэхналогіі, прыборы, перапрацоўка адходаў, якіх у рэспубліцы ўтвараецца больш як 40 млн. тон штогод. Ясна, што развіццё прадпрымальніцтва ў прыродаахоўнай дзейнасці прама залежыць ад падатковай палітыкі дзяржавы. Прадпрымальнік павінен атрымаць гарантыі выгаднага ўкладвання сродкаў. Неабходна перайсці да практыкі фінансавання рэальных праектаў і ўстанаўлення льготнага падаткаабкладання прадпрымальнікаў, якія ўкладваюць сродкі ў гэтыя праекты.

**А. САВАСЦЕНКА,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

# М. ГАРБАЧОЎ: «Маральная перамога засталася за мной»

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 177, 179—181).

— Пісьмо з патрабаваннем адстаўкі Кручкова і аб тым, што яшчэ ён можа зрабіць...

— Ведаеце, такіх пісьмаў ішло шмат. Ды што тут асобныя сігналы! Вы вазьміце падзеі, пачынаючы з расійскага з'езда, потым XXVIII з'езд, памятаеце, якая там узнікла сітуацыя і якія баі давялося вытрымаць? Пленум за пленумам — і ўвесь час знясільваючыя баі. Ужо было відаць, як узнімаюцца рэакцыйныя сілы...

— Але я пісаў канкрэтна пра Кручкова! Потым, праз некалькі дзён, мяне падтрымалі некалькі акадэмікаў, накіраваўшы Вам пісьмо з аналагічнымі патрабаваннямі: Шаталін, Петракоў, Арбатаў, Рыжоў.

— Аб чым?

— Аб тым жа, аб чым і я. Патрабавалі адстаўкі Кручкова — як лідэра будучых змоўшчыкаў.

— Неяк не адклалася ў памяці...

— Пра гэта паведамлялася ў газетах і ў «Вестях». Можа, да Вас гэтыя пісьмы ўсё ж не дайшлі? Іх ад Вас утаілі?

— Магчыма. Але тэма змовы ўвесь час узнікала. Мне нават званілі кіраўнікі замежных урадаў: да нас даходзіць інфармацыя, што будзе пераварот.

— Хто, напрыклад, званіў?

— Раптам тэрміновы званок ад прэзідэнта Буша: «Ёсць інфармацыя... Ты прабач, я не магу ўтойваць ад цябе, павінен сказаць — можа, гэта і несур'ёзна, але сёння ўначы будзе пераварот».

— Так, усе адчувалі, што яны на гэта пойдуць.

— Але ўсё ж і мы ўсю сваю справу зрабілі. Лічу, што сваю місію я выканаў: грамадства ўжо стала такое, што ўсялякая спроба перавароту была асуджана. І таму думаў, калі ў тых, хто мае намер учыніць пераварот, ёсць хоць кропля цвярозага розуму, нават дзеля ўласных шкурных інтарэсаў яны павінны былі прапічыць на пяць-шэсць крокаў наперад і зразумець: яны будуць зганьбаваны і разгромлены.

— Тым не менш, калі ўсё здарылася, гэта было для Вас нечаканым? Як Вы ўжо не раз гаварылі, Вы перажывалі не толькі з-за самой авантуры, а з-за таго, што на яе пайшлі людзі з Вашага блізкага акружэння.

— Безумоўна. Я гаварыў і пра вялізны маральны ўрон. Узяць хоць бы таго ж Кручкова. Цяпер робяцца спробы даказаць, што гэта быў абмежаваны, неразумны чалавек...

— Ну не. У выніку работы камісіі па расследаванню дзейнасці КДБ высветлілася, што ён па-свойму і старанна да ўсяго рыхтаваўся. Так, стала вядома, што пастаянна праслухоўваліся тэлефонныя размовы не толькі Якаўлева і Шэварднадзе, але і людзей з Вашага бліжэйшага акружэння. Напрыклад, размовы Віталя Ігнаценкі. Як мне стала вядома, у сейфе Болдзіна былі знойдзены цэлыя тамы запісаў размоў Ігнаценкі з Якаўлевым, Шэварднадзе, з Вамі... Нават размовы Лук'янава.

— І яго падслухоўвалі?

— Так. Не ведаю, ці слухалі размовы ў кабінеце, у якім мы зараз сядзім?

— А д'ябал яго ведае. Цяпер ужо ні ў чым нельга быць упэўненым, але тады думаў, што на гэта яны не пойдуць. Але я хачу прадоўжыць пра Кручкова асабіста. Для мяне ў значнай меры, акрамя таго, што ведаў я, мела значэнне, што яго падтрымліваў Андропаў.

— А для Вас думка Андропава была вельмі важнай?

— Пры ўсіх недахопах Андропава — я не хачу ідэалізаваць яго (і яго ідэалагічныя пазіцыі, і ўдзел у барацьбе з дысідэнцтвам — гэта мне ўсё было ясна) — гэта быў чалавек з вялікім інтэлектам і рашуча настроены супраць карупцыі. Я з ім звязаны быў доўга. Не скажу, што ў нас з ім былі вельмі блізкія адносіны, але я яго добра ведаў і мы сустракаліся рэгулярна. Кручкова, да якога Андропаў ставіўся добра, я таму і ўзяў. А дзе для гэтай сферы браць людзей? Адносіны Андропава да Кручкова былі для мяне крытэрыем. Прымітывізаваць нікога нельга. Хіба назавеш абмежаваным чалавекам Кручкова, Лук'янава?

— Янаева я ўсё ж назваў бы.

— Янаева я ведаў не так добра. Але ўрэшце справа не ў гэтым. Галоўнае ўсё ж — іх палітычныя пазіцыі. Яны адчулі, што стаіць за новым праектам Праграмы партыі, куды вядзе новаагароўскі працэс, і ў гэтым новым жыцці яны сябе не бачылі. Гэта значыць выявіліся ўжо глыбокія разыходжанні.

— Я да гэтага часу не разумею, чаму яны паляцелі ў Фарос.

— Другі раз?

— Так, калі ўжо было ўсё ясна. Навошта? Пакаяцца? Ці штосьці іншае? Я не бачу логікі ў гэтым учынку.

— Я таксама.

— Для Вас гэты візіт таксама загадкавы?

— Вядома. Можа, яны разлічвалі, што калі не пайшлі на кроў, то ўсё і забудзецца? Але гэта ўжо занадта. Не, напэўна, гэта была проста паніка. І запанікавалі яны адразу ж, як толькі пра сябе аб'явілі. Калі яны ў Фарос прыехалі ў першы раз, а потым пусцілі чуткі, што Гарбачоў хворы і гэтак далей, яны зразумелі, што ўжо за гэта прыйдзецца адказваць! І пачалі здаваць пазіцыі. У іх быў распрацаваны варыянт накшталт адстаўкі Хрушчова.

— Баюся, магло здарыцца і горшае... Яшчэ 19-га мы ў рэдакцыі даведаліся, што магло быць паведамленне аб тым, што Гарбачоў псіхічна хворы... А ці былі для Вас сярод гэкачэпістаў фігуры нечаканыя? Ці маглі Вы дапусціць, што змоўшчыкамі стануць менавіта яны?

— Я ўсё ж не думаў, што яны пойдуць на путч...

## ПАСЛЯ КРЫМА — ІНШЫ ЧАЛАВЕК!

У інтэрв'ю для праграмы Антэнсет французская журналістка Ан Сенклер напомніла мне пра словы, сказаныя пасля вяртання з «фароскага палону»: я, маўляў, вярнуўся іншым чалавекам. «У чым Вы змяніліся?» — спытала яна.

Вось мой адказ: людзі ў гэтай краіне з'яўляюцца часткай сусветнай цывілізацыі. Неабходна рэфармаванне ўсіх сфер жыцця на базе глыбокіх дэмакратычных пераўтварэнняў. Гэта было і застаецца маім выбарам, і ў гэтай частцы Гарбачоў не змяніўся. Але путч дапамог мне атрымаць урокі. Вельмі суровыя ўрокі. Самай вялікай маёй памылкай было тое, што я дазволіў уцягнуць сябе ў дыскусію і ў палітычную барацьбу паміж рознымі плынямі дэмакратаў. Высвятлялі нюансы, у той час як перад намі была вялікая краіна, якая патрабавала палітычных адказаў. І трэба было аб'яднаць усе дэмакратычныя плыні, стаць вышэй за палітычныя страсці, асабістыя прыхільнасці.

Уявіце, чаго каштавала камуністу вылучыць ідэю агульначалавечых каштоўнасцей? Паводле маіх даных, 75 працэнтаў апарату ЦК былі супраць маёй пазіцыі. Я гэта ведаў і таму не кідаў партыю. Мы выйшлі на новую праграму сацыялістычнага тыпу. Восенню павінен быў адбыцца з'езд, але путчысты перашкодзілі. Мне не шкада путчыстаў — шкада людзей. Радавыя камуністы апынуліся ў цяжкім становішчы.

Маё становішча змянілася, але я абараняю тыя ж ідэі. Калі вярнуўся з Фароса, прыйшлося выступіць у Вярхоўным Савеце Расіі, дзе былі ў мой адрас зневажэнні, нават ганьбаванне. І, трэба быць да канца шчырым, не без удзелу Ельцына. У іншы час я пайшоў бы ў адстаўку. У той момант не мог так зрабіць. Мне кінулі фразу: зноў Вы гаворыце аб сацыялістычным выбары, трэба мятлой вымесці сацыялізм з тэрыторыі краіны. Адказаў: не вяршыце хуткі суд, не ўпадайце ў вар'яцтва. Гэта ж мільёны людзей. І лічу — маральная перамога засталася за мной.

Я думаю, на мой лёс выпала вялікая справа. Галоўная справа майго жыцця здзейснілася. Прыйдуць іншыя, магчыма, лепш будуць рабіць. Я хачу, каб усё закончылася поспехам, а не паражэннем.

— Ці адчуваеце Вы сябе спакойна? — спытаў мяне карэспандэнт «Стампа» Джульета К'еза.— Ці не баіцеся Вы, што Васператвораць у казла адпушчэння, калі справы будуць дрэннымі?

У гісторыі так часта бывае. Калі палітыкі на чале ўлады церпяць паражэнне або ім не ўдаецца кантраляваць сітуацыю, яны стараюцца адцягнуць увагу грамадзян на іншыя праблемы, ліхаманкава шукаюць у што б там ні стала казла адпушчэння. Такім чынам, нельга нічога выключаць. Першыя прыкметы падобнай тактыкі ўжо ёсць. Але я адчуваю сябе спакойна. Правакатары будуць пасаромлены і адкажуць па закону. Мне працягваюць задаваць пытанне расійскія і замежныя журналісты: ці не збіраюся ўзначаліць апазіцыю?

Мой пераход у апазіцыю быў бы нічым не апраўданым: ні з палітычнага пункту погляду, ні з пункту погляду інтарэсаў краіны. Немагчыма, каб Гарбачоў выступаў супраць палітыкі рэформ у Расіі. Я магу даваць парады, выказваць меркаванні, але я падзяляю асноўны курс рэформ і заяўляю, што мы павінны падтрымліваць кіраўніцтва Расіі. І я сказаў аб гэтым Ельцыну.

Ці шкадую я, што прыйшлося пакінуць пасаду Прэзідэнта? З першага дня знаходжання на чале ўлады я пачаў свядома размяркоўваць яе. Я не даражу ўладай дзеля ўлады. Цяпер, у новым маім становішчы, у мяне вялікія планы. Я атрымліваю шмат прапаноў, у тым ліку ад маіх замежных сяброў, але сканцэнтрую сваю дзейнасць тут, у Расіі.

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

Я закончыў работу над кнігай у лютым. Дэмакратычныя падзеі апошніх месяцаў 1991 года адыходзяць у гісторыю, а жыццё працягваецца, і мы знаходзімся сёння ў зусім новай сітуацыі.

Я застаюся прыхільнікам ідэі глыбокага рэфармаванага Саюза як цэласнага дзяржаўнага ўтварэння. Не магу пагадзіцца, што распад Савецкага Саюза быў прадвызначаны, непазбежны, быццам бы «імперскі» характар унітарнай дзяржавы перашкаджаў набыццю сапраўднага суверэнітэту рэспублікамі. Калі гэта і была імперыя, то зусім асаблівага роду: не было пануючай нацыі, панавала таталітарная адміністрацыйна-распарадчая сістэма, якой былі падпарадкаваны ўсе народы Саюза.

Калі заяўляюць, быццам іншага выбару не было,— гэта не так. Выбар быў, і не які-небудзь абстрактны, узяты «з галавы». Перадумовы для яго з'явіліся не раптам, не на пустым месцы, а былі падрыхтаваны палітычна — сакавіцкім рэферэндумам, абмеркаваннямі і рашэннямі З'езда народных дэпутатаў, узгодненым праектам Саюзнага дагавора.

Чаму ўзяў верх іншы сцэнарый — я спрабаваў растлумачыць у кнізе. Але палітыка ёсць палітыка, і скардзіцца цяпер на неспрыяльнае палітычнае надвор'е ці збег акалічнасцей — занятак дарэмны. Што зроблена, тое зроблена. Пройдзены пэўны рубеж, узнікла новая рэальнасць. Для палітыка гэта азначае, што трэба ўлічваць і адпаведна дзейнічаць. І галоўнае — захаваць у новых умовах асноўны вектар развіцця ў напрамку дэмакратыі і рэформы.

Трэба цяпер зберагчы Садружнасць, зрабіць яе працаздольнай. Няхай гэта не саюзная дзяржава, а Супольніцтва дзяржаў.

## Ад рэдакцыі:

**Напэўна, кожнаму чалавеку ўласціва сябе падманваць — прыхарошваць сябе колішняга, свае паводзіны, перакладаць адказнасць за агульныя пралікі на іншых. Уласціва любыя свае ўчынкі тлумачыць найлепшымі памкненнямі.**

**Такая ўжо чалавечая прырода, і М. Гарбачоў тут далёка не выключэнне. Ён жа не адзіны, каму ёсць што ўспомніць. Мы з вамі таксама можам тое-сёе прыгадаць — няшмат часу прайшло. Але не будзем кідаць у ягоны бок камяні.**

**Адназначна адно — сваё наканаванне ў Гісторыі гэты чалавек здзейсніў, і яшчэ невядома, ці зрабіў бы гэта нехта на яго месцы лепей. І ён мае, як і ўсе, права на сваю думку.**

**Кнігу былога прэзідэнта мы надрукавалі зусім не таму, што цалкам падзяляем яго думкі і імкнёмся неяк яго рэабілітаваць, апраўдаць (многім учынкам Гарбачова наогул няма апраўдання), не таму што засумавалі па гадах яго праўлення. Мы можам яго не любіць — наша права. Але ведаць яго павінны. Хоць бы дзеля таго, каб не паўтараць яго памылак.**

# «Бізнес» вакзальных музыкаў

**Тысячы людзей праходзяць міма іх, дзесяткі прыпыняюцца. Зрэдку падносяць кветкі, часцей—абражаюць. «Хворыя адны сабраліся»,—злосна кідае мужчына з «дыпламатам», спяшаючыся хутчэй абмінуць натоўп вакол музыкаў—глядзіш, таксама за «хворага» прымуць...**

— Заўсёды вельмі непрыемна, калі плююць у твой бок. Але ж не ў бойку з ім лезці. Асабліва, калі нецвярозы... Раней хіба магло быць такое? Ды ніколі! Раней людзі наогул больш выхаваныя былі. Хіба мог выхаваны чалавек дазволіць сабе абразіць музыку?.. Нават сярод злачынцаў гэтага не было. У дарэвалюцыйнай Маскве адным з самых страшных лічыўся Яшка-Цыган, нікога не шкадаваў. Але музыкаў, няхай сабе самых нязначных, ніколі не чапаў. Бо мастацтва традыцыйна лічылася такой жа «святой» справай, як і царква... А зараз?

Прыходзіць да нас учора мясцовы «рэкет», патрабуюць грошы. Маўляў, шмат зарабляеце, час дзяліцца. І хто? «Сінеча» мясцовая, аматары-«шасцёркі»... Няхай у апошні час музыкантаў і звялі да ўзроўню прыбіральшчыц, нават аднолькавую зарплату паклалі, але ж годнасці сваёй мы яшчэ не страцілі, каб аддаваць грошы невядома каму. Між іншым, на непрадбачаны выпадак у нас тут ёсць «свае» хлопцы. Але ўчора і так разабраліся. Уласна кажучы, што з нас узяць? Напэўна, таму сапраўдны рэкет цікавасці да нас не праяўляе...

«Выдаўшы» гэты тэкст, Валодзя нечакана спахапіўся: «Іграем на заказ 34-ы нумар»,— дырыжор падаў знак, што час спыняць размову...

Аднойчы — год назад — яны вырашылі паспрабаваць сябе на вакзале. Першая спроба аказалася ўдалай, і музыкі засталіся, вызначыўшы вакзальную плошчу сваёй канцэртнай пляцоўкай. Амаль усе яны працуюць у прафесіянальных аркестрах, але тут—іншае. Зразумела, грашовая зацікаўленасць — не на першым плане, але і не на апошнім. Падчас выканання сваёй партыі ў вялікім аркестры на спецыяльна адведзеным месцы музыкант звычайна не бачыць твараў слухачоў. На вакзале не так. «Адразу адчуваеш, падабаецца людзям, ці не. Калі падабаецца —асабліва прыемна... Сёння наогул духавы аркестр жывым пачуць — амаль тое самае, як у «Спрынт» выйграць. Гэтак жа рэдка і нерэальна»,—паведаміў барабаншчык Міша ў чарговым перапынку паміж нумарамі.

Дарэчы, кожная мелодыя сапраўды зашыфравана пад пэўным нумарам. А ў рэпертуары аркестрыка іх—больш за сотню. Вельмі рэдка здаралася, што музыкі не маглі выканаць чый-небудзь вельмі ўжо мудрагелісты заказ. Заказваюць, праўда, не вельмі часта, звычайна проста слухаюць. Пасажыры, якія бавяць час у чаканні поезда, выпадковыя людзі, якім «духавы аркестр пачуць, што ў «Спрынт» выйграць», праходзілі міма і спыняліся. Дзеці, міліцыянеры, салдаты і, вядома, «бомжы». Тут у іх — свая танцавальная пляцоўка, ледзь ці не адзіная магчымасць «адарвацца» за сваё няўдалае жыццё... Трубачу Ігару, студэнту інстытута культуры, вельмі непрыемна назіраць, як яны вытанцоўваюць, бо лічыць, што іх, музыкаў, гэта прыніжае. І людзей, якія збіраюцца вакол аркестрыка, таксама прыніжае. Дае права грамадзянам з «дыпламатамі» называць іх «хворымі». Сапраўды, нейкая частка вакзальнага люду смяецца з п'яных бомжавых скокаў. Нават абурацца пачынаюць, калі міліцыя адганяе «танцораў» — такое відовішча! Але — не ўсе. Часцей людзі прыпыняюцца менавіта для таго, каб паслухаць «жывую» музыку. Асабліва — людзі старэйшага ўзросту. Напэўна, успамінаючы ўласную маладосць, якая прайшла пад гэтыя, сёння ўжо старыя, мелодыі. Калісьці духавы аркестр зусім не быў нейкім экзатычным відовішчам. А з цягам часу духавую музыку чамусьці пачалі лічыць ледзь ці не выключна «музыкай для нябожчыкаў», чуючы пераважна на хаўтурах. Віктар Уладзіміравіч, самы старэйшы і паважаны сярод музыкаў аркестрыка, як і любы дырыжор (дарэчы, і музыка адначасова), упэўнены, што людзі шмат страцілі, замацаваўшы за духавым аркестрам жалобныя паўнамоцтвы. Хіба можа якая іншая музыка быць больш аптымістычнай, чым духавая? Хіба можа якая іншая ствараць такі святочны настрой? Ды ніякая! Але па нейкай незразумелай традыцыі звычайны чалавек, не музыкант, пачуўшы трубачоў, у першую чаргу ўспамінае менавіта пра пахаванне. У другую— пра ваенны парад. І ўсё. І ніякіх станоўчых эмоцый. А вось каб інакш паглядзець на духавую музыку, ды і на жыццё наогул...

А вось другі музыка, таксама Ігар, «саўдэпаўскага» ўкладу жыцця проста не выносіць. І людзі, як ён лічыць, у сваёй бяссэнсавай айчыннай мітусні наўрад ці хутка пераменяцца. Прывыклі жыць без радасці. Хіба толькі бомжавыя скокі і здольныя выклікаць у іх смех. Таму і імкнецца хутчэй за мяжу. Спачатку — у Польшчу, потым—як атрымаецца. Каб паглядзець нарэшце на «нармальных людзей» і самому адчуць сябе такім жа «нармальным».

Але з грашамі праблемы...

Сіняе вядро, прыстасаванае пад збор «ахвяраванняў» (сумкі надта хутка зношваюцца) прыносіць няшмат. Амаль столькі ж, як і год назад. Крыху больш за дзённы збор вакзальнага жабрака. Час ад часу ад натоўпу аддзяляюцца адзін-два чалавекі і апускаюць у сінюю «скарбонку» плату за «канцэрт». Адны са словамі ўдзячнасці, другія — крадком, спяшаючыся хутчэй адысці, нібы міласціну падалі. Але музыкі— не жабракі. І грошы іх—менавіта заробак, а не міласціна. Больш нумароў адыграюць («пакуль губы не пачнуць адвальвацца») — больш атрымаюць. Зусім рынкавы механізм. У кожнага—свой бізнес. І адзін на ўсіх—«Паланез» Агінскага.

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**



**Некалькі гадоў падтрымліваюць дружалюбныя сувязі супрацоўнікі галоўнага паштовага ўпраўлення нямецкага горада Ганновера і Брэсцкага абласнога вытворча-тэхнічнага ўпраўлення сувязі і інфарматыкі. Калегі неаднаразова абменьваліся дэлегацыямі, вывучалі вопыт адзін аднаго, нямецкія спецыялісты дапамаглі ў тэхнічным аснашчэнні прадпрыемстваў сувязі горада над Бугам.**

**А нядаўна аркестр духавых інструментаў паштовых работнікаў Ганновера даў канцэрты ў абласным цэнтры, Кобрыне, Баранавічах. Іх выступленням спадарожнічаў нязменны поспех.**

**НА ЗДЫМКУ: дырыжыруе Манфрэд ШТОЛЬЦ.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА. (БЕЛІНФАРМ).**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 10 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

**17.15.** «Пра кацяня Жэню і правілы руху», «Сапраўдныя сябры», «Уладары маланак», «Падарунак для слана». Мультфільмы.
**18.00.** Дак. фільм «Заложнікі».
**18.30.** Зачытайце маё пісьмо...
**18.35.** Як пачаць уласную справу. Дыялог амерыканскіх бізнесменаў.
**19.05.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.15.** Міжнацыянальная хакейная ліга. «Дынама» (Мінск) — СКА (Санкт-Пецярбург). У перапынку **(19.55)** — Тыдзень беларускага ўрада.
**20.50.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.30.** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок» прадстаўляе...
**23.30.** Бізнес-клуб «Партнёр» прапануе... дабрачынны тэлеаўкцыён.
**23.35.** НІКа.
**23.50.** Бізнес-клуб «Партнёр». Перадача 3-я.

**Канал «Астанкіна»**

**17.00.** Навіны.
**17.25.** «Дзяўчынка і клоун». Мультфільм.
**17.35.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.15.** «Багатыя таксама плачуць».
**19.00.** «Партрэт на фоне». Грузія. Жнівень—верасень.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40** «Еўропа плюс... і плюс... і плюс...»
**21.50.** Хакей. Кубак лігі. «Дынама» (Масква) — ЦСКА.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Праграма тэлебачання Японіі. «Свята аголеных».
**0.10.** «Лятучая мыш». Маст. фільм.

**Канал «Расія»**

**17.15.** Панарама прыватызацыі.
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Студыя «Нотабене».
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Крымінальныя весткі.
**19.45.** Вялікая нарада.
**20.05.** «Санта-Барбара».
**21.00.** На палітычным Алімпе. Урокі Р. Яўлінскага і В. Нямцова.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Спартыўная карусель.
**22.25.** На палітычным Алімпе. Працяг.

### 11 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Каму сняцца коні...» Кінанарыс.
**9.00.** Беларуская літаратура. 10 клас.
**9.40.** Маст. фільм «Музычная гісторыя».
**16.30.** Навіны.
**16.35.** «Пабочным асобам уваход дазволены». Маст. фільм.
**17.50.** «Знарок». Мультфільм.
**18.00.** Дак. фільм «Дарога».
**18.25.** Футбол. «Дынама» (Мінск) — «Трактар» (Бабруйск). У перапынку **(19.10)**—Абласныя навіны (Магілёў).
**20.20.** Вершы Б. Пастарнака ў перакладах беларускіх паэтаў.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Тэлебіржа.
**21.35.** Маст. фільм «Музычная гісторыя».
**23.00.** Бізнес-клуб «Партнёр» прапануе... Дабрачынны тэлеаўкцыён.
**23.05.** НІКа
**23.20.** Футбол-92. Вынікі тура.
**23.35.** Футбол. «Ведрыч» (Рэчыца) — КІМ (Віцебск).

**Канал «Астанкіна»**

**5.00.** Навіны.
**5.20.** Ранішняя гімнастыка.
**5.30.** Раніца.
**7.50.** «Бабульчын парасон». Мультфільм.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць».
**9.05.** Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
**9.50.** «Аліса ў краіне цудаў». Мультфільм.
**10.20.** Наш музычны клуб.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Вяртанне Будулая». Маст. фільм. 4-я серыя.
**12.25.** «Сям'я». Кароткаметражны фільм.
**12.50.** «Лятучая мыш». Маст. фільм. 2-я серыя.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Брыдж.
**14.50.** Бізнес-клас.
**15.15.** Уолт Дысней прадстаўляе...
**16.05.** На III Міжнародным фестывалі тэлепраграм для дзяцей і юнацтва.
**16.20.** Цэнтр.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** Максіма.
**17.55.** Чалавек і закон.
**18.25.** Фільм для дзяцей «Прыгоды чорнага Прыгажуна». 9-я серыя.
**18.50.** Поле цудаў.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Амерыканскі маст. фільм «Ніколі не кажы «ніколі».
**23.00.** Навіны.
**23.20.** Музагляд.
**0.00.** «Адпачывай!»

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.25.** Час дзелавых людзей.
**7.55.** Студыя «Нотабене».
**8.35.** Майстры. «Усмешка Самойлава».
**9.30.** Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісу.
**10.20.** М-трэст.
**10.35.** Экзотыка.
**11.35.** Вольны час. «ТБ-атэлье».
**11.50.** «Санта-Барбара».
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Тэлебіржа.
**15.30.** Спявае Валерый Агафонаў.
**15.45.** Паралельныя сусветы.
**16.30.** Там-там навіны.
**16.45.** Панове-таварышы.
**17.00.** Уолт Дысней па пятніцах. «Мастацтва Уолта Дыснея».
**19.00.** Весткі.
**18.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Вуснамі дзіцяці.
**20.00.** У свеце аўта- і мотаспорту.
**20.30.** Крымінальныя паведамленні.
**20.40.** Тэатральны раз'езд. Наталля Макарава і Раман Віктюк.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Давайце разбяромся.
**22.30.** «Шматкроп'е над «і». Перадача 3-я.
**23.00.** «Інтэрвенцыя». Маст. фільм.

## ШАШКІ

**Пад рэдакцыяй майстра спорту М. Грушэўскага**

**НОВЫЯ КОНКУРСЫ**

Аб'яўляем новыя конкурсы рашэнняў пазіцый. Прыняць удзел можна ва ўсіх конкурсах ці ў адным з іх.

Усяго будзе 12 заданняў. Норма другога разраду — развязаць усе заданні, трэцяга — набраць 67 працэнтаў ачкоў у адным з конкурсаў.

За ўказаныя пабочныя рашэнні альбо доказ, што пазіцыя не рашаецца, налічваюцца дадатковыя ачкі. Таму будзьце ўважлівымі...

Тэрмін прысылання адказаў —10 дзён з наступнага дня пасля апублікавання заданняў.

Суддзя конкурсаў — кандыдат у майстры спорту, чэмпіён Рэспублікі Беларусь Пётр **Шклудаў** (г. Наваполацк).

А зараз прапануем **першыя заданні:**

**Рускія шашкі**

**Конкурс № 93**



**Белыя:** простыя b4, d2, d4, g3, h4(5).

**Чорныя:** простыя b6, c7, e7, f6, g5(5).

Ход і выйгрыш белых (адно ачко).

Аўтар мініяцюры — мінчанін Іван **Наўроцкі.**

**Міжнародныя шашкі**

**Конкурс № 55**

**Белыя:** простыя 6, 25, 39, 41, 42, 49(6).

**Чорныя:** простыя 1, 12, 23, 24, 36, 40(6).

Пачынаючы, белыя выйграюць (два ачкі).

Аўтар камбінацыі — Валянцін **Сцяпанаў** (г. Абаза).

**Шашкі—шахматы**

**Конкурс № 4**



**Белыя:** кароль c1, слон g3, конь a3, дамка e3, простая f4(5).

**Чорныя:** простыя b4, h6(2).

Белыя пачынаюць і запіраюць дзве простыя шашкі чорных (адно ачко).

Аўтар гэтай казачнай задачы — Віктар **Шульга** (г. Мінск).

Майце на ўвазе, што шахматныя фігуры гуляюць строга па сваіх звычайных правілах, а шашачныя — па правілах рускіх шашак.

Пераможцы конкурсаў будуць адзначаны.

## НАДВОР'Е

### 10 верасня

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае з праясненнямі надвор'е пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Магілёве, Віцебску — 14—16, Гродна, Гомелі і Мінску — 15—17, Брэсце — 17—19 градусаў цяпла. У наступныя двое сутак: 11 верасня пераважна без ападкаў, 12-га — месцамі кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ўначы 5—10, удзень — 15—20 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**

## РАСЛІНЫ І ЗДАРОЎЕ

**На Беларусі расце паўсюдна на ўмерана вільготных мохавых глебах, сярод хмызнякоў, у ліставых, хваёвых, змешаных лясах. На лясных адкрытых палянах утварае заraснікі.**

**Шматгадовая травяністая расліна вышынёй 10—30 см. Ад карэнняў адыходзяць прамыя кветканосныя сцяблы і палеглыя парасткі, пакрытыя валаскамі і калючкамі. Лісце доўгачаранковае, пакрытае цвёрдымі валаскамі, на сухое надвор'е згортваецца ў трубачкі, на дождж распраўляецца.**

**Цвіце ў маі—чэрвені. Кветкі белыя, на верхавіне сцяблоў сабраны па 3—10 у шчыткападобныя суквецці.**

**Плады—буйная, зборная касцянка, яна складаецца з 2—6 сакавітых плодзікаў, з буйной костачкай, ягада ярка-чырвоная, прыемнага кіслага смаку.**

**Плады ўтрымліваюць дубільныя, пекцінавыя рэчывы, вітамін С, цукар, арганічныя кіслоты, лісце—вітамін С, трава— алкалоіды, дубільныя рэчывы, флаваноіды, руцін.**

# КАСЦЯНІЦЫ

**Народная назва: КАСЦЯНКА.**

**ДЛЯ ХАРЧАВАННЯ**

**выкарыстоўваюць ягады. З іх вараць варэнне, жэле, кісялі, сіропы, гатуюць сок, ліманад, морс, квас. З высушаных, размолатых зярнят робяць смачныя прыправы да мясных і рыбных страў.**

**СОК З КАСЦЯНІЦАЎ.** 1. Ягады перабраць, прамыць халоднай вадой, расцерці, скласці ў шкляную ці паліваную пасудзіну і паставіць у халоднае месца на двое сутак. Пасля сок зліць (ягады не адпускаць), працадзіць, разліць у шкляны посуд, закупорыць. Захоўваць у халодным месцы. Выкарыстоўваць для прыгатавання кісялёў, кампотаў, мусу, жэле, квасу, сіропу.

2. Ягады з пладаножкамі прамыць халодн вадой, адкінуць на друшляк. Калі вада сцячэ, заліць іх кіпенем, даць астыць. Пасля працерці праз сіта, адціснуць сок, дадаць цукар, размяшаць, давесці да кіпення, разліць у стэрылізаваныя слоікі, бутэлькі і закаркаваць. Захоўваць у халаднаватым месцы.

1 кг касцяніцаў, 500 г цукру, 1 л вады.

**ЖЭЛЕ З КАСЦЯНІЦАЎ.** Ягады заліць халоднай вадой, варыць на слабым агні, пакуль не лопнуць, працадзіць. У сок пакласці цукар і ўварыць яго да кансістэнцыі жэле. Гарачым раскласці ў стэрылізаваныя слоікі і закупорыць.

200 мл соку касцяніцаў, 300 г цукру.

**КІСЕЛЬ З КАСЦЯНІЦАЎ.** Ягады расцерці драўляным таўкачыкам, заліць вадой, праварыць 5 хвілін, працерці праз друшляк ці сіта. У адвар пакласці цукар, размяшаць, давесці да кіпення, уліць разведзены ў халоднай вадзе крухмал.

200 г касцяніцаў, 100 г цукру, 400 мл вады, 20 г крухмалу.

**КАСЦЯНІЦЫ З ЦУКРАМ ЦІ МЁДАМ.** Ягады абсыпаць цукрам ці змяшаць з мёдам, вытрымаць 5—10 хвілін.

200 г касцяніцаў, 50 г цукру ці 30 г мёду.

**ВАРЭННЕ З КАСЦЯНІЦАЎ.** Ягады засыпаць цукрам на 4—6 гадзін, затым варыць, пастаянна памешваць.

1 кг касцяніцаў, 1 кг цукру.

**У НАРОДНАЙ МЕДЫЦЫНЕ** выкарыстоўваюць ягады, траву, карэнішча касцяніцаў. Яны павышаюць апетыт, паляпшаюць страваванне, аказваюць процізапаленчае, процігліставае, проціцынготнае дзеянне. Трава з каранямі знішчае перхаць на галаве, садзейнічае росту валасоў.

**Настой касцяніцаў.** 20 г кве-




так і лісцяў касцяніцаў настойваць у 200 мл кіпеню 4 гадзіны. Піць па 50 мл 3—4 разы ў дзень пры гастрытах, калітах, бранхітах, гемароі.

**Адвар з касцяніцаў.** 10 г травы гатаваць у 200 мл вады 10 хвілін, настойваць 2 гадзіны, пасля працадзіць. Піць па 50 мл 4 разы ў дзень перад ядой пры гастрытах, калітах, халецыстытах.



**Адвар з касцяніцаў.** 30 г травы варыць у 2 л кіпеню 20 хвілін, настойваць 1 гадзіну. Мыць галаву пры перхаці, выпадзенні валасоў.

**Сок з ягад касцяніцаў** піць па 25 мл 3—4 разы ў дзень перад ядой пры гастрытах, калітах, прастудзе, бранхітах.

Процiпаказанні не ўстаноўлены.

**НАРЫХТОЎВАЮЦЬ**

траву ў час цвіцення, карэнне—восенню. Траву сушаць ў засені, у добра праветраным памяшканні. Карэнне сушаць у печах, духоўках.

Тэрмін захоўвання травы 1 год, каранёў—2 гады.

**Ніна АЛЯКСЕЙЧЫК,**
**Валер САНЬКО.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін —32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 182.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12